ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 141 (5323)
Субота, 8 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.

Актуальна

# Як стварыць ідэальны падручнік?

***"Ахілесава пята" сучаснага падручніка, у прыватнасці падручніка па гісторыі, - логіка пабудовы зместу мадэлі вучэбнага прадмета. Ці ў стане мы сёння зрабіць сур'ёзны крок у вырашэнні праблемы падручніка? Пра гэта размова з галоўным рэдактарам навукова-метадычнага часопіса "Гісторыя: праблемы выкладання" М.І.Мініцкім.***

**— Мікалай Іосіфавіч, вы з'яўляецеся галоўным рэдактарам часопіса "Гісторыя: праблемы выкладання", які ўжо пяць гадоў служыць справе гістарычнай адукацыі. Якую б праблему вы вылучылі ў гэтай сферы і чаму?**

— Сярод розных адукацыйных праблем я б выдзеліў праблему падручніка. Яна факусіруе пытанні набыцця ведаў і інтэлекту, выхавання грамадзяніна і патрыёта, фарміравання духоўнага аблічча маладога чалавека. Сёння праблема падручніка гучыць асабліва актуальна. У апошнія гады, бадай, не было ніводнага адукацыйнага мерапрыемства, на якім бы не ішла гаворка пра аптымальныя шляхі яе вырашэння. Апошняе таму сведчанне – II з'езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь.

**— Няўжо праблема падручніка настолькі драматычная? Мы ж маем і пэўныя поспехі: абнаўляецца змястоўная парадыгма, уводзяцца новыя адукацыйныя тэхналогіі, выпускаюцца нацыянальныя падручнікі.**

— Адназначна адказаць на гэтае пытанне нельга. Без сумнення, практыка стварэння падручнікаў мае пазітыўныя бакі. У нашай рэспубліцы ўпершыню вырашаецца задача стварэння нацыянальных падручнікаў. Вось некалькі прыкладаў. Гэта значна ўдасканаленыя падручнікі "Мая Радзіма – Беларусь" (3 клас), сацыяльна-гуманітарны курс "Чалавек і свет (Гуманістыка)" (8–11 класы), падручнік па сусветнай гісторыі (8 клас). Неабходна адзначыць і сумарны факт: за апошнія пяць гадоў у рэспубліцы было выпушчана звыш 900 найменняў нацыянальных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Разам з тым, агульнымі недахопамі вучэбнай літаратуры з'яўляюцца: перавышэнне дапушчальных аб'ёмаў, высокая ступень складанасці, ігнараванне тыпаў здольнасцей вучняў, сур'ёзныя недапрацоўкі ў афармленні кніг.

**— Якія перспектывы вырашэння гэтых пытанняў? Што, на вашу думку, можна вырашыць у бліжэйшы час?**

— Адно з самых слабых месцаў у стварэнні вучэбнай літаратуры – логіка пабудовы змястоўнай мадэлі вучэбнага прадмета. Мадэль павінна мець інтэгратыўны характар. І таму неабходна яе ўсебаковая тэарэтычная распрацоўка педагогамі, гісторыкамі, псіхолагамі, метадыстамі. Акрамя таго, трэба ўлічыць логіку самога тэксту. Гэта шлях вырашэння многіх, але не ўсіх, пытанняў. У непасрэднай сувязі з гэтым можна згадаць рэкамендацыю вядомага расійскага вучонага і арганізатара навукі, філосафа І.С.Ладэнкі. Ён лічыў, што для вырашэння адукацыйных праблем важна наяўнасць трох рэчаў: калектыву зацікаўленых прафесіяналаў, тэхналогіі і сродкаў. У якасці зыходных момантаў нам неабходна цяпер лабараторыя тэхналогій падручніка, дзе былі б сканцэнтраваны навуковыя і практычныя намаганні. Яе стварэнне магчыма на базе Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі, дзе ёсць блізкія па профілі лабараторыі.

Што датычыць тэхналогій, то з імі – парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку, мы маем сур'ёзныя недахопы ў пытанні стварэння падручнікаў, з другога, ёсць шэраг перадумоў для хуткага вырашэння гэтай праблемы. Такія пытанні, як аб'ём і складанасць вучэбнага тэксту ды інш., можна пасляхова вырашыць ужо цяпер на аснове тэхналогій, распрацаваных пераважна ў 80-я гады мінулага стагоддзя. А сучасныя камп'ютэрныя тэхналогіі на аснове псіхалінгвістыкі дазваляюць улічваць узроўні і тыпы здольнасцей вучняў.

**— Рэарганізацыя, і асабліва новыя тэхналогіі, патрабуюць значных фінансавых сродкаў.**

— І гэтую праблему можна вырашыць, толькі падыходзіць да яе трэба з сучасных пазіцый. Фінансаванне арганізацыйнага боку справы ў першы час можа ажыццяўляцца за кошт перагляду рэзерву ўнутры НМЦ вучэбнай кнігі.

З сучаснымі камп'ютэрнымі тэхналогіямі сітуацыя больш складаная. Яны ёсць на расійскім рынку, але цана іх даволі высокая. Мы маглі б звярнуцца і да беларускіх распрацовак, але яны не настолькі дасканалыя. Таму патрабуюцца час і зноў жа сродкі, хаця і значна меншыя. Грошы ў хуткім часе мы зможам зарабляць і самі.

Тут неабходна прынцыпова новае рашэнне – стварэнне камерцыйнай арганізацыі, непасрэдна звязанай з рынкам рэкламы. Дарэчы, гэта прынесла б прамую карысць і рэкламе. Справа ў тым, што сучасныя тэхналогіі апрацоўкі тэксту могуць выкарыстоўвацца ў любой камунікатыўнай сферы: у рэкламе – псіхалагічнае ўздзеянне на спажыўца; у адукацыі – стварэнне падручнікаў з улікам розных, у тым ліку і індывідуальных, патрэб вучняў; у сродках масавай інфармацыі – фарміраванне грамадскай думкі; у дызайне – стварэнне пэўных псіхалагічных установак і эмацыянальнага настрою. Такім чынам, зацікаўленых асоб тут можа быць дастаткова шмат.

Яшчэ адна крыніца – спонсарства, або вядомае з пачатку XX стагоддзя мецэнацтва. Выданню падручнікаў маглі б у першую чаргу дапамагчы кнігавыдавецкія фірмы. Напрыклад, у афармленні падручнікаў – фірма "Белфакс", выданні якой звяртаюць на сябе ўвагу не толькі на беларускім, але і на расійскім рынку. А ім маглі б быць карыснымі парады вучоных па тэхналогіях тэксту, такія магчымасці і патрэбы ёсць у абодвух бакоў.

**— Не маглі б вы спраектаваць мадэль "ідэальнага" падручніка па гісторыі для будучыні? Як ён павінен выглядаць?**

— Падручнік па гісторыі перш за ўсё павінен быць прыгожым, цікавым і даступным. Ён павінен несці ў сабе не толькі пэўную "суму" ведаў, але і спосабы пазнавальных дзеянняў. Прычым апошняму фактару надаецца цяпер усё большае значэнне. Плынь інфармацыі, у тым ліку і вучэбнай, аб'ектыўна павялічваецца. Значыць, актуальнай становіцца навуковая распрацоўка спосабаў упарадкавання, захоўвання і выкарыстання ведаў, а таксама навучанне гэтаму вучняў.

**— На вашу думку, ці дастаткова намаганняў вучоных-гісторыкаў і педагогаў-метадыстаў, каб напісаць добры падручнік?**

— Акрамя вырашэння пытанняў інфармацыйнага і дыдактычнага характару, трэба зрабіць яшчэ шмат. Падручнік сёння, і яшчэ ў большай меры заўтра – з'ява полідысцыплінарная. Тут неабходны таксама намаганні філосафаў, гісторыкаў, псіхолагаў, лінгвістаў, дызайнераў.

**— Якія напрамкі работы над праблемай падручніка асабіста вам найбольш цікавыя?**

— Адзін напрамак ужо быў названы – гэта логіка пабудовы мадэлі вучэбнага прадмета, другі – гэта дыферэнцыяцыя тэксту падручніка па ўзроўнях і відах здольнасцей вучняў. Узяць хоць бы вядомы падзел на "фізікаў" і "лірыкаў". Сёння дастаткова пераканаўча даказана, што ён абумоўлены асаблівасцямі функцыянавання і спецыялізацыі левага і правага паўшар'яў мозга. У цэласнай структуры індывідуальнасці гэта звязана з памяццю, матывацыяй, рысамі характару, тэмпераменту і ў больш шырокім – з пазнаннем.

**— Пагадзіцеся, што, акрамя іншага, хацелася б мець падручнік і прыгожы на выгляд. Бо, па сцвярджэнні псіхолагаў, усе кампаненты вучэбнай інфармацыі звязаны праз візуальна-прасторавае і пачуццёвае ўспрыманне.**

— Безумоўна, афармленне падручніка, яго знешні выгляд і ілюстрацыйны матэрыял з'яўляюцца паказчыкамі інфармацыйнай культуры выдання. Усё гэта ўжо на падсвядомым узроўні павінна павышаць цікавасць да падручніка, жаданне ўзяць яго ў рукі. Цяпер ёсць дастатова распрацаваная тэорыя каляровага ўспрымання кніжнай інфармацыі, але наша рэчаіснасць у большасці выпадкаў – чорна-белыя карцінкі. Каляровая гама ілюстрацый не павінна быць абстрактнай, яе прызначэнне – данесці да нас сэнс светапазнання і светаадчування эпохі. Як вядома, кожная эпоха мела свой дамінуючы колер і свае трактоўкі яго ўспрымання.

**— Усе мы памятаем, як у дзяцінстве захоплена чыталі апавяданні А.Неміроўскага, міфы Н.Куна, а ў больш старэйшым узросце - гістарычныя аповесці і раманы. Як цяпер выкарыстоўваецца сіла мастацкага слова і вобраза для "ўжывання" ў гістарычную рэчаіснасць?**

— Гэта асобны бок агульнай праблемы падручнікаў для вучняў. Для паляпшэння стылю тэксту падручніка, надання яму літаратурна-эстэтычных якасцей пажадана, каб у стварэнні падручнікаў удзельнічалі і літаратары. Асабліва гэта датычыць малодшага школьнага ўзросту, дзе для вучэбных тэкстаў рэкамендуецца форма літаратурна-сюжэтнага аповеду.

**— Цяпер найбольш актуальна гаварыць пра выхаванне патрыятызму, фарміраванне грамадзянскай пазіцыі, інтэлектуальных здольнасцей, нацыянальнай самасвядомасці і духоўнасці. Якое ваша бачанне выхаваўчых мэт гістарычнай адукацыі ў глабальным плане?**

— Я станоўча стаўлюся да сказанага вамі, але ў вызначэнні вышэйшых мэт і каштоўнасцей адукацыі хацелася б звярнуцца да ідэй Макса Шэлера. Ён вылучаў тры вышэйшыя мэты станаўлення, якім могуць і павінны служыць веды. Па-першае, станаўленню асобы – гэта "адукацыйныя веды"; па-другое, станаўленню свету – гэта "выратавальныя веды" і, нарэшце, па-трэцяе, "веды дзеля панавання". Паміж гэтымі трыма мэтамі існуе іерархія: ад ведаў дзеля панавання шлях ляжыць да адукацыйных ведаў і далей – да выратавальных ведаў. "Так званых "ведаў дзеля ведаў" не існуе нідзе, іх не можа і не "павінна" быць увогуле".

**— Напрыканцы раскажыце пра тое, як ваш часопіс будзе ўдзельнічаць у ажыццяўленні задач гістарычнай адукацыі і выказаных вамі ідэй?**

— "Гісторыя: праблемы выкладання" – гэта адзін з 21 часопіса серыі, адрасаванай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе. Гэта комплекс часопісаў на чале з часопісам "Адукацыя і выхаванне", якім кіруе ініцыятар і падзвіжнік гэтай справы, галоўны рэдактар У.П.Пархоменка. Мы ганарымся тым, што ўваходзім у склад гэтага выдання, якое забяспечвае інфармацыйную прастору школьнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Наш часопіс паступова мяняе свой характар: калі раней мы працавалі пераважна дзеля таго, каб ліквідаваць недахоп метадычнай літаратуры, дык цяпер мы ўсё больш прымаем на сябе ролю праваднікоў у вялізным кніжным свеце. Выступаючы за адзіную адукацыйную прастору з Расіяй, мы інфармуем чытача не толькі пра нацыянальныя, але і пра расійскія выданні. Гэтая інфармацыя з'яўляецца цікавай і карыснай для абодвух бакоў. Пра гэта сведчыць выпуск расійскага часопіса "Выкладанне гісторыі ў школе" (№ 8, 2000 г.) на матэрыяле беларускіх аўтараў, а таксама нашы рэцэнзіі на расійскія выданні.

У бягучым каляндарным годзе мы будзем працаваць у традыцыйных для нас напрамках: абнаўленне зместу гістарычнай адукацыі, удасканаленне дыдактыкі і тэхналогій навучання. Будуць уведзены рубрыкі "Праблемы школьнага падручніка" і "Філасофія гістарычнай адукацыі".

Мы будзем публікаваць матэрыялы па новых гістарычных даследаваннях, метадалогіі гістарычнага даследавання і філасофіі гістарычнай адукацыі. Галоўным па-ранейшаму застанецца напрамак дыдактыкі і адукацыйных тэхналогій. Мы маем намер публікаваць фрагменты рукапісаў новых падручнікаў, метадычныя распрацоўкі, інфармацыю пра найноўшую літаратуру. І апошняе. Дазвольце выказаць удзячнасць нашым аўтарам, падпісчыкам і проста чытачам за творчую, матэрыяльную і маральную падтрымку. Таго ж жадаем чытачам і падпісчыкам "Настаўніцкай газеты".

**Гутарыў А.МІКАЛАЕЎ.**



Зіма – гэта мароз і радасць, лічыць Наталля Белянкова. У Крычаўскім цэнтры культуры, дзе яна стварыла дзіцячы фальклорны ансамбль і пасля заканчэння Магілёўскага вучылішча культуры вучыць моладзь танцам, ідзе падрыхтоўка да навагодніх святаў.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

Званок з рэдакцыі

# Драматычная сітуацыя вырашана

***Далася, як кажуць, у знакі мінулагодняя зіма настаўнікам і вучням Зашырскай сярэдняй школы Ельскага раёна. Яны паведамлялі, што ў лютаўскія маразы тэмпература ў класных пакоях не падымалася вышэй +8°...***

Ці ўлічаны ўрокі мінулагодняй зімы? Якія захады прынялі мясцовыя ўлады, каб карэнным чынам выправіць становішча, каб у рэшце рэшт школьныя памяшканні займелі належны тэмпературны баланс?

Як паведаміла рэдакцыі дырэктар школы Марыя Ляшкевіч, выйсце знойдзена ў наступным: задзейнічана аўтаномная (школьная) кацельня, магутнасці якой дастаткова для забеспячэння навучальнай установы цяплом. Гарантыя гэтаму - як яе тэхнічны стан, так і назапашаная колькасць цвёрдага паліва (у пераважнай большасці).

Марыя Аляксандраўна расказала, што справай прадметна зацікавіліся мясцовыя ўлады - нават абласныя. У выніку драматычная сітуацыя, якая склалася вакол Зашырскай сярэдняй школы, была вырашана.

Дзейсную дапамогу, паводле слоў Марыі Аляксандраўны, аказала ўпраўленне адукацыі Гомельскага аблвыканкама, у прыватнасці яго начальнік Андрэй Лук'яновіч.

**Наш кар.**

## Увага: конкурс!

## Прыз — каляровы тэлевізар

*Рэдакцыя "Настаўніцкай газеты" аб'яўляе конкурс для сваіх індывідуальных падпісчыкаў.*

*Умовы конкурсу:*

*1. Удзельніку конкурсу неабходна даслаць у рэдакцыю пісьмо, у якім назваць магчымы падпісны тыраж на "Настаўніцкую газету" на 1 студзеня 2002 года. Тыраж называецца прапіснымі лічбамі.*

*2. У пісьме ўказваецца хатні адрас удзельніка, нумар хатняга або службовага тэлефона (калі ён ёсць).*

*Да пісьма прыкладаецца копія падпіснога абанемента (ксеракопія або напісаная ад рукі).*

*3. Пераможцам конкурсу стане той удзельнік, які дакладна назаве лічбу тыражу. У выпадку, калі дакладная лічба не будзе названа, пераможцам становіцца той, хто назаве лічбу, найбольш прыбліжаную да рэальнай. Калі ж прэтэндэнтаў будзе некалькі, то пераможцу вызначыць жараб'ёўка, праведзеная журы конкурсу.*

*4. Пры атрыманні прыза пераможцу неабходна прад'явіць рэдакцыі арыгінал падпіснога абанемента.*

*5. Удзельнічаць у конкурсе маюць права чытачы, якія афармілі падпіску на "Настаўніцкую газету" не менш чым на тры месяцы ў першым паўгоддзі 2002 года.*

*6. Пісьмы аб удзеле ў конкурсе прымаюцца па пошце або непасрэдна рэдакцыяй не пазней 21 снежня 2001 года па адрасе: 220034, Мінск, вул. Захарава, 42, рэдакцыя "Настаўніцкай газеты" з паметкай "На конкурс".*

*7. Пераможцу ўстанаўліваецца прыз - каляровы тэлевізар з экранам па дыяганалі - 54 см.*

*8. Вынікі конкурсу падводзяцца журы не пазней 20 студзеня 2002 года.*

*Для прыкладу: падпісны тыраж "Настаўніцкай газеты" на IV квартал 2001 г. склаў 27.212 экзэмпляраў.*

*Даведкі па тэл.: 236-40-63, 236-53-22, 236-91-42.*

# "Жывая вада" надае сілы

## Адбыўся II адкрыты Рэспубліканскі экалагічны турнір

***Тое, што ў другім Рэспубліканскім экалагічным турніры, правядзенне якога ператвараецца ў добрую традыцыю сумеснай працы Міністэрства адукацыі і грамадскай арганізацыі "Беларускі зялёны крыж", пажадала прыняць актыўны ўдзел больш як трыццаць вучнёўскіх каманд з усіх абласцей нашай краіны, сталася прыемнай нечаканасцю для ўсіх.***

Прыехала на экалагічны турнір у сталіцу 28 каманд. Паспаборнічаць у ведах па біялогіі, хіміі, фізіцы, матэматыцы, геаграфіі (а такая навука як экалогія для вырашэння сваіх праблем патрабуе глыбокага ведання ў першую чаргу менавіта гэтых дысцыплін, нароўні з ліцэістамі, гімназістамі, вучнямі сталіцы, абласных, раённых гарадоў вырашылі і юныя эколагі з Селявіцкай, Сенькаўшчынскай школ Слонімскага раёна, а таксама вучні з Козенскай школы Мазырскага раёна.

Тры дні ў ліцэі № 2 Мінска літаральна бушаваў сапраўдны напал барацьбы. Асабліва перажывалі за сваіх выхаванцаў настаўнікі, кіраўнікі каманд. І было чаму: уявіце сабе, як крыўдна не ўвайсці ў фінал турніру, набраўшы салідную колькасць агульных балаў, але не вытрымаўшы рэйтынгу сапернікаў. Аднак кампетэнтнае журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя ў нашай краіне навукоўцы, загадчыкі кафедраў БДУ і Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага універсітэта імя А.Д.Сахарава, карысталася міжнароднай сістэмай у ацэнцы як дакладаў, так і выступленняў апанентаў ды рэцэнзентаў з ліку ўдзельнікаў турніру.

У фінал выйшлі тры каманды: старшакласнікі ліцэя пры БДУ (Мінск), вучні сталічнай школы № 22 і навучэнцы ліцэя пры Наваполацкім універсітэце.

Першай пачала змагацца за перамогу каманда са сталічнага ліцэя пры БДУ.

Дзеля таго каб аргументавана даказаць журы, групам апанентаў і рэцэнзентаў перавагі ў выкарыстанні пэўных мыйных сродкаў, камандзе прыйшлося перамыць цэлую "гару" бруднага посуду (відэаапіс). У выніку эксперыменту яны вызначылі растваральнасць розных рэчываў, залежнасць паверхневага нацяжэння ад канцэнтарцыі раствору, іншыя параметры. Прадстаўнік каманды Павел Велігураў усе гэтыя даследаванні дакладна пералічыў, а некаторыя – прадэманстраваў на запісанай відэастужцы.

Апаненты задавалі каверзныя пытанні, іх дапаўнялі і паглыблялі рэцэнзенты, потым была чарга за журы. Каманда змагла адстаяць свае пазіцыі.

Але самым цікавым было даследаванне нафтавых, масляных і бензінавых плевак на вадзе, якое правяла каманда з ліцэя пры Наваполацкім універсітэце. Юныя эколагі сфатаграфавалі пад мікраскопам кроплі прадуктаў, выпрацаваных з нафты, змаглі зрабіць замер таўшчыні плямы, вызначылі хуткасць яе распаўсюджання на паверхні вады, а таксама паведамілі пра спосабы знішчэння бензінавых і нафтавых плям.

Пытанні апанентаў і членаў журы былі няпростымі, накшталт: ад чаго залежыць колер плямы, экалагічна чыстае дызельнае паліва – што гэта такое, якую шкоду наносяць навакольнаму асяроддзю прадукты нафтаперапрацоўкі?

І на ўсе пытанні юныя даследчыкі давалі глыбокія, грунтоўныя адказы. Журы, разам з апанентамі і рэцэнзентамі, выставіла камандзе з Наваполацка самыя высокія балы.

А вось вучні з сярэдняй школы № 22 Мінска ў выніку электролізу атрымалі "жывую" і "мёртвую" ваду. Сваё паведамленне пра эксперымент Вольга Алісіёнак пачала з паэтычнага выказвання пра ўласцівасці вады знакамітага Антуана дэ Сэнт-Экзюпеexample. Старшакласніца праявіла мужнасць і знаходлівасць, адказваючы на шматлікія пытанні і крытычныя заўвагі, і разам з камандай змагла аргументавана даказаць вартасць праведзенага даследавання.

І вось, нарэшце, наступіў самы прыемны момант – узнагароджанне, як у камандным заліку, так і ў асобных намінацыях. Сертыфікат з рук старшыні журы прарэктара Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага універсітэта імя А.Д.Сахарава Андрэя Цімошчанкі атрымаў кожны ўдзельнік турніру. Пераможцы – каманда ліцэя пры Наваполацкім універсітэце (педагогі Л.Абуховіч і М.Івагноў) – узнагароджаны дыпломамі першай ступені і каштоўнымі прызамі, другое месца заваявала каманда сярэдняй школы № 22 Мінска (педагог Л.Казак, кансультант Ю.Разум) і трэцяе – старшакласнікі ліцэя пры БДУ. У асабістым заліку лепшым вызначаны Максім Скотнікаў (сярэдняя школа № 25 пас.Балбасава Аршанскага раёна).

У шматлікіх намінацыях, накшталт – лепшы апанент, рэцэнзент, даклад і інш., арганізатары турніру, прадстаўнікі "Зялёнага крыжа", пастараліся не пакінуць без увагі амаль усіх удзельнікаў спаборніцтваў. Так, напрыклад, прызы "За самы доўгі шлях да турніру" атрымала каманда Селявіцкай школы.

А вось што сказаў напрыканцы падзеі старшыня журы Андрэй Цімошчанка:

– Прыемна, што экалагічны турнір набірае абароты становіцца папулярным сярод вучняў не толькі гарадскіх, але і сельскіх школ. Дзеці змагаліся ў складаных умовах, многія каманды вучыліся адстойваць свае веды ў ходзе спаборніцтваў. Тут праявілася ўменне працаваць у калектыве. І лепш выглядалі тыя вучні, у школах якіх дзейнічаюць дыскусійныя клубы. Шмат папрацавалі са сваімі выхаванцамі настаўнікі. І ёсць яркія асобы ў многіх камандах: гэта нашы будучыя абітурыенты. Мы бачым сваю задачу ў тым, каб развіваць і падтрымліваць таленавітых дзяцей. Калі яшчэ ў школе старшакласнік будзе мець матывацыю да вывучэння той ці іншай дысцыпліны, дык і студэнтам ён будзе паспяхова авалодваць выбранай ім прафесіяй. Лепш, калі падрыхтоўка спецыяліста пачынаецца ў школе, дзе вучні маюць магчымасць атрымаць першыя навыкі даследаванняў Такія экалагічныя турніры дапамагаюць нам у выбары будучых студэнтаў. І добра, што праводзяцца такія спаборніцтвы па ініцыятыве грамадскай арганізацыі "Беларускі Зялёны крыж" (выканаўчы дырэктар У.Шаўцоў).

А наперадзе – новы Рэспубліканскі турнір "Дзень Зямлі. Беларусь-2002". У добры шлях, ініцыятыва!

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

## Да ўвагі арганізатараў конкурсу "Кенгуру"- 2002

20-21 снежня ў актавай зале СШ №50 г. Мінска (вул. Кісялёва, 9, праезд з вакзала на метро да станцыі "Плошча Перамогі") адбудзецца рэспубліканскі семінар для прадстаўнікоў раённых і гарадскіх аддзелаў адукацыі – арганізатараў конкурсу "Кенгуру".

Пачатак работы семінара ў 11.00. Рэгістрацыя ўдзельнікаў – з 10.00.

Заяўкі на ўдзел у семінары прымаюцца да 17 снежня 2001 года. На семінары будуць падведзены вынікі конкурсу 2001 года, абмеркаваны арганізацыйныя пытанні, звязаныя з правядзеннем конкурсу "Кенгуру"-2002. Удзельнікі семінара абмяняюцца вопытам работы, атрымаюць неабходныя для арганізацыі і правядзення конкурсу матэрыялы.

Па ўсіх пытаннях, якія звязаны з удзелам у конкурсе і работай семінара, звяртацца на адрас: РЗФМХШ ("Кенгуру"), 220013, Мінск, вул. Дарашэвіча, 3, тэл. (017) 239-91-72, 232-80-31.

## Паважаныя чытачы!

**Працягваецца падпіска на першае паўгоддзе 2002 года. Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".**

Настаўніцкая газета — выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь

Падпісны кошт на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў – 8400 рублёў; на квартал – 4200 рублёў; на месяц – 1400 рублёў.
Па ведамаснай падпісцы: на паўгоддзе – 22800 рублёў; на квартал – 11400 рублёў; на месяц – 3800 рублёў.
Індэкс для індывідуальнай падпіскі — 63867, для ведамаснай — 63363.

